Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Серада, 25 чэрвеня 1919 г. № 28.

## Што дасьць нам мір з Нямеччынай?

Калі мы друкуем гэтую стацьцю, нам яшчэ не вядома, падпісалі немцы мір ці не падпісалі. Будзем думаць лепшае — што немцы падпісалі варункі Антанты, бо іншага выхаду знайсьці ім ня было магчымасьці. Такая заўсёды доля пабітага,—хочаш ня хочаш, а рабі тое, што загадваюць. Калі-ж адрачэшся слухацца, то цябе ізноў будуць біць і зробяць табе яшчэ гарэй. Вось дзеля таго мы і думаем, штс немцы, ня хочучы, змушаны былі падпісаць варункі міра і падпісалі іх.

Калі гэта так і ёсьць, то цікаўна памеркавацца ў тых пасьледзтвах, якія наступяць ў хуткім часе для нас, беларусаў, і наагул для ўсёй Усходняй Эўропы. Да апошняга часу Антанта не магла заняцца пытаньнем аб Усходняй Эўропе так, як гэтага вымагалі патрэбы. Антанта не магла ўмешацца ў нашы справы, ня скончыўшы са справамі нямецкімі, бо справы нямецкія, само сабой ясна, звязывалі сілы Антанты па руках і па нагах, патрабуючы трымаць іх напагатове на усякі выпадак. Мір з Нямеччынай развязвае Антанце рукі і яна можа прыняцца цяпер за справы Усходняй Эўропы.

Перш за ўсяго Антанта пачне больш энэргічную барацьбу з бальшавізмам. Усе сілы, якія вядуць барацьбу з бальшавізмам, атрымаюць цяпер ад Антанты уселякую дапамогу: грашмі, аружжам, амуніцыяй і можа навет людзьмі. Эстонія, Латвія, Фінляндзія, Польшча, Літва, а таксама—Колчак, Денікін, Юдэніч, што змагаюцца з бальшавізмам сваімі ўласнымі сiламі, а таксама—без агульнага пляну, будуць, як нам здаецца, аб'яднаны пад кіраўніцтвам аднаго анцібальшавіцкага глаўнага камандуючага.

Як і ў барацьбе Антанты з немцамі стварэньне адзінага фронту прынясло Антанце добрыя плады, зламаўшы нямецкі адзіны фронт, так і у барацьбе з бальшавікамі утварэньне адзінага фронту дасьць магчымасьць хутчэй разьбіць бальшавікоў. Аб'яднаўшы ўсе анцібальшавіцкія сілы пад аднэй камандай, можна будзе пазбыцца шкодных для спраў барацьбы з бальшавізмам «хатніх» спрэчак паміж рознымі народамі, што вядуць з бальшавікамі барацьбу. Гэтыя спрэчкі вельмі шкодзяць усім, апрача бальшавікоў, карыстаючых з іх і набіраючых у гэтых спрэчках новыя сілы.

Ці-ж нам ня ясна, што вайна Польшчы з Украінай ёсьць самая найлепшая дапамога бальшавізму. Б'ючы украінцаў, палякі б'юць самых сябе, бо замест таго, каб дарадзіцца з украінцамі аб супольнай барацьбе проціў агульнага ворага—бальшавікоў, палякі, пасварыўшыся з украінцамі, ставяць сябе пад удары і ўкраінцаў і бальшавікоў.

Эстонцы сварацца з латышамі і навет пачалі вайну.

Ліцьвіны маюць злосьць проціў палякоў і, каб маглі, так сама пачалі-б з палякамі вайну.

Розныя непарзуменьні з-за тэрыторыяльных пытаньняў прыводзяць да злосных адносін паміж асобнымі народамі, пачынаючымі дзяліць скуру занадта рана, калі зьвер ня толькі не забіты, але навет сам мае яшчэ сілы загрызаць сваіх ворагаў і рваць на кавалкі іх скуры.

Антанта павінна налажыць сваё veto на забіякаў і сказаць ім ясна, што пакуль ня будзе пакончана з бальшавізмам, тэрыторыяльныя пытаньні ня могуць быць разгледжаны. Калі гэта будзе зроблена, то ня ў кога ня будзе ахвоты захапліваць тое, што кепска ляжыць, і потым казаць, што гэта маё, бо я мею вайсковую сілу, каб утрымаць захоплянае.

Нам, беларусам, ня маючым яшчэ сваей арганізованай вайсковой сілы, усякі можа зрабіць крыўду, калі захоча, і нам больш, як другім, трэба дамагацца, каб дзяржавы Антанты ўзялі на сябе абарону інтарэсаў нашых і іншых слабых народаў, каб нашы землі, што знаходзяцца пад той ці іншай акупацыяй, акупанты ня лічылі за свае землі. У нас могуць спытацца: ці захочуць некаторыя акупанты змагацца з бальшавікамі, калі даведаюцца, што барацьба з бальшавікамі не дасьць ім ніякіх тэрыторыяльных «заваяваньняў».

Такім акупантам мы павінны адказаць: калі вы пачалі барацьбу з бальшавікамі, каб потым нас няволіць, дык дзякуем за ласку. Лепш вы непрыхадзілі-б саўсім, калі вы думалі, што мы будзем здаволены, паменяўшы адно ярмо на другое.

Так сама мы спытаемся: а ці могуць акупанты забясьпечыць свае землі ад бальшавіцкага панаваньня, калі з бальшавікамі ня весьці барацьбы далей?

Дзеля гэтага, трэба пакінуць думкі аб захватах на «вечныя времена» «адвечных» зямель. Пакуль ёсьць бальшавікі, ня можа быць нічога пэўнага на сьвеці. Антанта гэта добра сабе уцяміла, калі прызнала урад Колчака, як расейскі урад, каторы павінен весьці барацьбу з бальшавікамі і толькі пасьля таго заняцца справамі аб тых ці іншых адносінах Расеі да народаў, уваходзіўшых да рэвалюцыі ў склад Расейскай Імпэрыі.

Будзем спадзевацца, што пасьля міра з немцамі Антанта хутка займецца справамі Усходняй Эўропы, а ў тым ліку і справамі Беларусі і ня дасьць нас нікому, скрыўдзіць ні цяпер ні потым, калі барацьба з бальшавікамі будзе скончана.

**Лук—аш.**

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калі-ца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ен будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*

### Зьмяньшэньне канцінгента амэрыканскай арміі і флота.

ВАШЫНГТОН, 21 чэрвеня. Парлямэнт пастанавіў на тое лета зьменьшаць канцінгент узброеных сіл да 300 тыс. чал. Пэрсанал флота павінен быць зьменьшаны да 170 тыс. чал. Па праэкту марской камісіі, марскі бюджэт на 1920 г. не павінен перавысіць 3 міліардаў франкаў.

# У ВІЛЬНІ.

### Санітарныя справы.

У цяперашні мамэнт у Вільні пошасьць плямістага тыфусу такая, якой яшчэ ніколі ня было. Заўсёды, як рабілася цяплей, пошасьць тыфусу зьменьшалася, а цяпер гэтага ня відаць.

У часе ад 1 да 8 чэрвеня мястовы санітарны аддзел зарэгістраваў 401 прыпадкаў гэтай хваробы, з таго ліку 189 хворых палажылі ў бальніцу, а рэшту 212 пакінулі ў хаце.

Калі ўзяць пад увагу, што аграмадная частка беднага насяленьня ў такіх здарэньнях зусім не зьвертаецца да доктара, дзеля таго, што ня маець ніякай надзеі папасьці ў бальніцу, дык трэба думаць, што ўзапраўдны лік хворых на тыфус у Вільні шмат вялікшы, прынамсі ў два разы.

А вось цыфры, якія даюць абраз гэтай пошасьці ў мінулых гадох: у 1909 г., калі таксама была ў Вільні пошасьць тыфусу, хварэла ў месяц каля 150 асоб. Праз увесь 1909 г. у заразнай бальніцы было 541 хворых. У часе нямецкай акупацыі, калі была найвялікшая пошасьць тыфусу і народ блага страваваўся, найвялікшы лік хворых быў у чэрвені — 466.

З агульнага ліку хворых, якіх палажылі у бальніцу, значная частка гэта арыштанты. Гэткім чынам у працягу тыдня (1—8 чэрвеня г.г.) заразная бальніца прыняла з Лукішскай турмы 18 асоб, з Даміканскай—39. Асабліва многа хворых дае гэтая апошняя турма, і трэба думаць, што яна будзе пастаянным месцам заразы і што ўсе, якія там будуць зачыняны арыштанты, будуць хварэць. Дзеля таго павінна быць як га наладжана пры турме дэзынфэкцыйная цяпліца.

Апрача таго, многа хворых даюць дзіцячыя прытулкі.

У заразнай бальніцы здараецца, што яна бывае гэтак перапоўнена хворымі, што спыняе далейшы прыём.

Бальніцы, дэзынфэкцыйныя, домы ды інш. гэтакія установы ня могуць нармальна працаваць дзеля таго, што не хапае вельмі многа патрэбных рэчаў: праз увесь час вайны нічога новага. Нястача бялізны гэтакая, што адзін раз здарылася, што з гэтай прычыны на колькі дзён перасталі прыймаць новых хворых. Таксама адчуваецца вялікая нястача коняў дзеля перавозу у бальніцу хворых.

Вялізарнае значэньне ў барацьбе з пошасьцю тыфусу маюць цяпліцы вашапрудкі. Цяперака ёсьць дзьве гэтакія вашапрудкі: на II Партовай вул. № 10 і на Кальварыйскай № 1.

У віленскіх бальніцах шмат хворых ад голаду, якіх прывозіць карэтка скорай помачы іншы раз проста з вуліцы. З прычыны дрэннага наладжаньня справы стравованьня, гэтакія хворыя, маючы у бальніцы сякую-такую страву, ня хочуць выпісвацца і гэткім чынам ацягчаюць бальніцу. З другога боку — бальнічная адміністрацыя добра разумее, што калі выпісаць гэткіх падлечаных хворых да хаты, значыцца аддаць іх на галодную сьмерць, дзеля таго што іх хвароба часьцей усяго пачалася ад голаду.

У працягу часу ад паловы мая да цяперашняго мамэнту мястовыя санітарныя органы шмат ужо зрабілі, каб паправіць віленскія санітарныя недахваты, аднак з прычыны таго, што няма самай патрэбнай рэчы—няма чым перавозіць хворых, можна бачыць, што зробленa яшчэ замала. Так сама з прычыны недастачы коняў на вуліцах і пляцах лежаць кучы сьмецьця. На прыватных дзядзінцах тое самае, ямы ў патрэбных каморках перапоўнены. Гаспадарам дамоў пасылаюць паперкі, у якіх напісана, што калі ня будзе ў іхніх дамох чыстасьці і парадку, дык іх пакараюць. Нішто не памагае, дзеля таго што дамаўласьнікі адказываюць, што без мястовай помачы яны пры цяперашняй даражыні фурманкі нічога не парадзяць. А места мае толькі 5 коняў і дапамагчы ніяк можа.

Вось тут глаўная прычына, дзеля чаго нашае места нельга сяк-так ачысьціць. Каб направіць гэтую бяду, трэба каб санітарны абоз меў прынамсі 20 коняў.

### Плата за вайсковыя кватэры.

Магістрат пастанавіў, што ўстаноўленая спэцыяльнай камісыяй такса для гасьцініц можа стасавацца толькі да асоб цывільных, якія, значацца, ня маюць кватэрных картак. А што датыча пакояў, якія займаюць вайсковыя асобы, дык места будзе плаціць за іх толькі па цане, якая ўстаноўлена вайсковай уладай.

Пастаноўлена упаўнамочыць сэкцыю мястовых нярухомасьцяў, каб яна выплаціла гаспадарам гасьцініц за памяшчэньні, якія займалі вайсковыя асобы, авансы ў размеры прапанованым праз сэкцыю, а вось: 50 прац. цаны ўстаноўленой паводле таксы для цывільных за пакой, аднак ня больш за 3 руб. за адзін пакой і 5 р. за два пакоі.

За пакоі, занятыя у прыватных кватэрах, пастаноўлена выплаціць згодна з загадам Даводцтва этапнага вокругу—па 3 р. у дзень за адзін пакой і 5 р. за два. Калі ў аднэй кватэры занята больш за 2 пакоі, дык лічыцца, быццам занята кватэра і плаціцца паводле ацэны, устаноўленай кожны раз спэцыяльнай камісыяй.

### Пакінутыя домы.

На пасяджэньні магістрату 17 гэт. м-ца прызнана канечным пачаць ліквідацыю аддзелу апекі над пакінутымі дамамі. Распрацаваць плян і спосаб ліквідацыі даручана сэкцыі мястовых нярухомасьцяў.

### Аб парваных грашах.

Бурмістр м. Вільні загадаў, каб усе парваныя і падклееныя грошы, калі толькі застаўся на іх нумар і подпіс прыймаліся ўва ўсіх мястовых крамах.

Гэткім чынам урэшце скончыцца грашовая мука, ад якой цярпелі столькі часу жыхары нашага места!

### З турмы.

«Głos Litwy» паведамляе, што д-р. А. Домашэвіча (ліцьвіна) ужо выпусьцілі з турмы.

### Цана прадуктаў.

Упала цана ня толькі хлеба, сала ды інш. прадуктаў, а ўжо обніжаецца цана малака (2 р. за кварту), сыра (7 р. хунт) і масла (15—16 р. хунт.).

# З УСІХ СТАРОН.

### РАСЕЯ і ГРУЗІЯ.

Грузінскае бюро друку у Бэрну паведамляе: старшыня грузінскай мірнай дэлегацыі на парыжскай канфэрэнцыі, Чхэйдзе, зьвярнуўся да старшыні мірнай канфэрэнцыі, Клемансо, з нотаю, у каторай ад імя грузінскага народа і грузінскага ураду выказваецца надзея, што Коаліцыя формальна прызнае супраўдную незалежнасьць Грузіі. Нота грунтуецца на праве самаазначэньня народаў, паказваючы на тое, што воля грузінскага народа даволі ясна выказана ў агалашэньню незалежнасьці часовым парламентам і ў санкцыі гэтага крока грузінскім установчым соймам 12-га марца 1919 года. Чхэйдзе заканчывае ноту гэткімі словамі: пры урэгуляваньню рускага пытаньня ня варта занядбаць грузінскую рэспубліку. У разе прызнаньня Коаліцыяй якога-небудзь ураду, як ураду усей Расеі, Грузія павінна быць фармальна і без усялякага абмяжаньня выключана з гэтага будучага рускага гаспадарства.

### РАСЕЯ і НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ ФІНЛЯНДЗІІ.

Пад такім назовам руская бэрлінская газэта «Голос России» месьціць вестку з Бэрна, што рускае консульства у Жаневе апублікавала у «Gazette de Lauzanne» заяву з прыгоды фінскага пытаньня, якое было перaказана старшыне мірнай канфэрэнцыі князем Львовым, Сазоновым Чайкоўскім і Маклаковым ад імя рускай палітычнай канфэрэнцыі у Парыжу. У заяве паказваецца на тое, што прызнаньне фінляндзкай незалежнасьці Коаліцыяю павінна быць пастаўлена у залежнасьць ад згоды з рускага боку. Далей гаварыцца, што да тэй пары, пакуль дзяржавы Коаліцыі не адракуцца ад стратэгічнага умацаваньня сваіх граніцаў, Расея таксама не павінна занядбаць сваю самаабарону. Вайна перaканала што Фінляндзія патрэбна для абароны Расеі, дзеля гэтага Расея можа прызнаць **самастойнасьць Фінляндзіі** толькі з вядомымі умовамі.

### БЕЛАРУСКАЯ РАДА

памяшчаецца на Востра-Брамскай вул., д. № 9.

Старшыня Рады прымае што дзень, апрача сьвят, ад 1 да 2.

Сэкрэтар прымае у панядзелак, сераду і пятніцу ад 3 да 4.

БЕЛАРУСЫ! Купляйце і пашырайце сваю газэту. Пішэце у сваю газэту.

Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі.

Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стефанаўская, 23.